*7 лістапада 2000г. бюлетэню «Каліва» споўніўся год. Прымаем віншаванні і падарункі!*




# КАЛІВА

№15
ЛІСТАПАД 2000 г.

Бюлетэнь Берасьцейскага абласнога Цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў "Вежа"


# Самыя «празрыстыя і дэмакратычныя выбары» нелігітымных «палатнікаў»

*З кожнымі новымі выбарчымі кампаніямі часоў першага прэзідэнцтва Беларусь з зайздроснай мэтанакіраванасцю вышэй і вышэй будуе мур на сваёй заходняй мяжы. Нават нягледзячы на добра праведзены выбарчы фарс, Еўропа зноў адмовілася прызнаваць легітымнай другую «палатку», а г. зн., кампанія ізаляцыі працягнецца яшчэ пэўны тэрмін.*




Назіральнікі не спяць !

Кастрычніцкія ж выбары павінны ўвайсці ў гісторыю пад красамоўнай назвай «улада абірае сама сябе». Адсутнасць у выбарчай кампаніі альтэрнатывы мясцовай і рэспубліканскай уладзе справакавалі калі не пратэст, то відавочную апатыю. І сапраўды, каго выбіраць , калі выбары былі выйграныя ўладай практычна да іх пачатку, пра што можна было даведацца, проста зазірнуўшы ў спіс кандыдатаў у дэпутаты.

Атрымалася гэта пасля таго, як апазіцыя і прэзідэнт так і не выказалі жаданне рассекчы «гордзіеў вузел» чатырох умоваў, у выніку чаго першыя адмовіліся ўдзельнічаць у выбарах, яны адразу згубілі асноўную інтрыгу. Ясна, што пасля гэтага ўлада атрымала магчымасць сфармаваць такі парламент, які яна хацела бачыць, сведчаннем чаго стала абранне 52 былых палатнікаў. У сваю чаргу дэмакратычныя сілы распачалі сваю кампанію «Байкот-2000», але яна не была падрыхтавана належным чынам. Не аказалася перад выбарамі ў асяроддзі апазіцыі ні штаба, ні цэнтра, ні лідэра, які быў бы здольны распрацаваць стратэгію байкоту.

Але нават у такіх умовах рэжысёры выбарчай пастаноўкі не здолелі згуляць па ўсіх правілах. Так, пад час першага тура галасавання, калі стала відавочна, што ў буйных гарадах выбары не адбудуцца, у справу ўступілі цяжкія гарматы. У 15 гадзінаў на блакітных экранах з'явілася старшыня цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына, якая запалохала выбаршчыкаў тым, што працяг выбараў будзе праводзіцца за кошт сродкаў падаткаплацельшчыкаў. Праўда, было незразумела, за чый кошт праводзіўся першы тур. Прыкладна адразу пасля гэтага выступу пачаўся масавы выхад членаў выбарчых камісіяў у народ з урнамі.

Бліжэй да вечара назіральнікам ужо не паведамлялі выніковыя лічбы галасавання, не дазвалялі пазнаёміцца са спісамі, падрыхтаванымі для галасавання дома. Але самай значнай вынаходкай выбаркамаў неабходна прызнаць такую працэдуру, як перагляд спісаў выбаршчыкаў. На вачах пачалі знікаць цэлыя дамы. «Вясна-96» паведаміла пра ўчасткі, дзе было выкрэслена да 20% выбаршчыкаў. Афіцыйныя дадзеныя з'явіліся толькі ў панядзелак і сведчылі пра тое, што выбары адбыліся ў 94 з 110 выбарчых акругаў і ў іх узялі ўдзел 60,6% выбаршчыкаў. Асаблівая сітуацыя назіралася на Берасцейшчыне, дзе ў 5 акругах - трох берасцейскіх і дзвюх баранавіцкіх - выбары не адбыліся.

Што тычыцца Берасця, то неабходна заўважыць, што менавіта тут ідэя байкоту выбараў знайшла сваіх самых шчырых прыхільнікаў. Асабліва відавочна гэта было на мітынгу 8 кастрычніка, які атрымаўся самым буйным у Беларусі. Акрамя таго, вельмі добра намаганнямі сябраў грамадскіх арганізацыяў і палітычных партыяў была праведзеная ўлётачная кампанія «Байкот-2000» і кампанія па назіранні за выбарамі. Дарэчы, па сведчанні ўдзельнікаў гэтых кампаніяў, ні міліцыянты, ні прадстаўнікі выбарчых камісіяў не стваралі ніякіх праблемаў, а, наадварот, ахвотна ішлі на супрацоўніцтва. У выніку такога нягалоснага супрацоўніцтва яўка на выбарчыя участкі была правалена і, хутчэй за ўсё, Берасце так і не будзе прадстаўлена ў ганебным палітычным серыяле «Палата №2».

Але самыя цікавыя падзеі пачаліся на Берасцейшчыне ў перапынку паміж двума выбарчымі турамі. У выканаўчай улады, якая, безумоўна, атрымала за правал выбараў па поўнай праграме, здалі нервы, і вось хутка на свет з канцылярыі Даўгалёва з'яўляецца самы адыёзны дакумент «Аб некаторых мерах па забеспячэнні правядзення другога тура выбараў». У ім усім кіраўнікам прадпрыемстваў, арганізацыяў, установаў, што месцяцца на тэрыторыі выбарчых акругоў, прадпісваецца пад час правядзення выбараў асабіста забяспечваць яўку на выбарчыя участкі. Акрамя таго, пачалі актыўна збірацца спісы тых людзей, якія не з'явіліся на выбарчыя участкі.

*Заканчэнне на 2 стар.*




Выбарчы фарс у дзеянні

НАВІНЫ

*** **У сярэдзіне кастрычніка адбылося першае пасяджэнне Берасцейскага Прэс-клуба,** на якім прадстаўнікі Міжнароднай фінансавай карпарацыі, Саюза прадпрымальнікаў Брэсцкай вобласці і такіх вядомых прадпрыемстваў г. Берасця, як СП "Санта-Імпэкс-Брэст", ААТ "ЦУМ" і інш. адказвалі на пытанні карэспандэнтаў БСТ, "Брэсцкага кур'ера", БелаПАН і абмяркоўвалі плюсы і мінусы цэнаўтварэння ў Рэспубліцы Беларусь.

На пачатку пасяджэння выкладчык кафедры менеджменту і маркетынгу Берасцейскага тэхнічнага універсітэта зачытаў даклад на тэму "Дзяржаўнае рэгуляванне цэнаўтварэння ў Рэспубліцы Беларусь", пасля чаго свае даклады зрабілі эканаміст па цэнах СП "Санта-Імпэкс-Брэст", загадчык таварнага аддзела ААТ "ЦУМ" і інш. Пасяджэнне праходзіла ў нефармальнай абстаноўцы, што спрыяла больш цеснаму супрацоўніцтву ўдзельнікаў.

*** **24 кастрычніка ў памяшканні Цэнтра «Вежа» прайшоў семінар, прысвечаны пераадоленню наркатычнай і алкагольнай залежнасці.** Семінар быў прапанаваны людзям, якія пакутуюць ад алкагольнай і наркатычнай залежнасці, членам іх сем'яў, а таксама спецыялістам, што займаюцца дадзенай праблемай (нарколагі, псіхатэрапеўты, псіхолагі, сацыяльныя работнікі і інш.). Пад час семінара прысутныя разгледзелі пэўныя аспекты залежнасці: біялагічны (здароўе), псіхалагічны (пачуцці, эмоцыі), сацыяльны (сям'я, праца), духоўны (сэнс жыцця, мэта, духоўныя каштоўнасці), пазнаёміліся з гісторыяй руху ананімных алкаголікаў, паняццем сузалежнасці, праграмай «12 крокаў», якая з'яўляецца базавым падыходам да вырашэння праблемы алкагалізму і наркаманіі, а таксама атрымалі псіхалагічныя кансультацыі спецыялістаў.

*Інфармацыйны аддзел «Каліва»*

*** **25 кастрычніка ў дыска-бары «Dixsi», што месяцца ў новым корпусе Берасцейскага універсітэта, адбылася беларускамоўная дыскатэка.** Арганізатарамі унікальнага мерапрыемства выступілі берасцейскія філіі «Маладога Фронту» і «Маладой грамады». Пасля кароткіх выступаў Сержука Бахуна, Наталлі Галанінай і прадстаўніка старэйшага пакалення Анатоля Ляўковіча Маладым Фронтам была праведзена віктарына, пераможцы якой атрымалі каштоўныя падарункі. А потым гучала беларуская музыка, і 90 чалавек, якія прыйшлі на дыскатэку, вельмі файна адпачылі, прычым танцавалі нават пад такі музон, які дансінгавым назваць вельмі цяжка. Бяспрэчным жа хітом дыскатэкі была песня з «Народнага Альбома» «Надзенька», якую спявалі ўсёй грамадой.

*Алесь Ляўчук*



*Фота ГА «Стары горад»*

# Самыя «празрыстыя і дэмакратычныя выбары» нелігітымных «палатнікаў»

*Заканчэнне. Пачатак на 1 стар.*

**Разам з тым стала паступаць інфармацыя, што да гэтых людзей прадугледжваюцца пэўныя эканамічныя санкцыі. Асабліва пры гэтым пакутвалі чыноўнікі, якіх першых сталі біць рублём за невыкананне свайго выбарчага права. Далей - больш. Радыё дагаварылася да таго, што тыя, хто не галасаваў, амаль што ворагі народа, агенты Захада і НАТА і што іх неабходна прымусіць галасаваць любымі сродкамі. У тэрміновым парадку ў школах прайшлі бацькоўскія сходы, якія чамусьці закраналі зусім іншыя, далёкія ад навучання пытанні. Карацей, улада зноў запусціла ўжо выпрацаваны механізм па запалохванні насельніцтва. Таму 29 кастрычніка адбылося тое, што і павінна было адбыцца. Нарадзілася другая «палатка прадстаўнікоў». Пры гэтым самая высокая актыўнасць назіралася ў Брэсцкай вобласці, дзе было загадана «стварыць атмасферу свята, народнага гуляння».**

**Што будзе з парламентам далей? Да сённяшніх славесных намаганняў Лукашэнкі падзяліцца з «палаткай» уладай не трэба адносіцца сур'ёзна. Усім у Беларусі і па-за яе межамі ясна, што будучыню краіны будзе вызначаць не нямы парламент, а іншыя выбары, выбары, якія здольныя перакуліць любую дыктатуру ў адзін момант. Пройгрыш гэтых выбараў будзе мець ужо куды больш жахлівыя наступствы.**

*Яўген Кавальчук*

# «ВЫРАБЫ-2000», ці як я быў назіральнікам

Пра тое, што 15 кастрычніка гэтага года рэжымам была падрыхтаваная масавая акцыя падману для нармальна развawжаючага чалавека навіною не было. Нас усіх цягнулі падтрымаць выбарчы фарс, каб потым паставіць перад фактам, нібыта палата прадстаўнікоў абраная народам. Апазіцыя на выбарчы фарс не пайшла з-за



*Хіба ж гэта выглядае натуральна? Выбар -- здзек над здаровым сэнсам*

невыканання чатырох умоваў АБСЕ, якія стварылі б усім кандыдатам роўныя стартавыя магчымасці. Бо я не разумею як за чалавека могуць прагаласаваць людзі, якія некалькі хвілін слухаюць ягоную прамову, а пасля розныя падлізы з разумным выглядам абліваюць гэтага чалавека брудам, выкарыстоўваючы пры гэтым у некалькі разоў больш эфірнага часу чым сам кандыдат.

Але ўдзел у выбарах я ўсё ж прыняў, праўда, у якасці назіральніка на выбарчым участку ў вёсцы Вялікая Турна Камянецкага раёна. Калі я прыехаў на ўчастак, то адразу апынуўся пад пільнай увагай старшыні мясцовага сельскага савета, які ўвесь час імкнуўся мяне загаварыць. Але нават пры гэтай перашкодзе мне не складала цяжкасці заўважаць і фіксаваць асноўныя парушэнні выбарчага кодэкса Беларусі. Асноўным парушэннем была выдача бюлетэняў без прад'яўлення пашпартоў, на што я адразу зрабіў заўвагу старшыні камісіі, але на яе не звярнулі увагі і працягвалі выдаваць бюлетэні, нават ведаючы пра парушэнні.

З самога ранку члены камісіі з пераноснымі скрынямі для галасавання аб'язджалі бліжэйшыя вёскі, якія ўваходзілі ў дадзены выбарчы ўчастак, заклікаючы людзей да галасавання. А калі я запатрабаваў спіс людзей, якія замовілі галасаванне на хаце, то, напрыклад, у вёсцы Вялікая Турна гэты спіс складаўся толькі з дзевяці чалавек, а хаты абыходзіліся ўсе. Бюлетэні членамі камісіі выдаваліся не пад роспіс, у невядомай для назіральніка колькасці. Так што перад членамі камісіі стаяла адна задача – забяспечыць яўку выбаршчыкаў, нават не зважаючы ўвагі на назіральніка. Калі да чалавека прыязджаюць з прапановай прагаласаваць і кажуць, што калі не прагаласуеш, не атрымаеш сена і г.д., то тут ужо нікуды не дзенешся ад такой прапановы. Пад час абеду ўсе члены камісіі, добра пад'еўшы за агульным сталом, яшчэ і добра выпілі, і, самае цікавае, што і мяне, назіральніка, таксама хацелі напаіць, але ад іх прапановы я адмовіўся, як і ад прапановы рэжыму прагаласаваць.

*Сяржук Бахун*

# Міністэрства юстыцыі Беларусі адмовіла ў рэгістрацыі Грамадскаму аб'яднанню «БАРЦ»

У лік заснавальнікаў «БАРЦ» ўваходзяць вядомыя грамадскія лідэры Віталь Васількоў з магілёўскага аб'яднання «Кола сяброў», Хрыстафор Жэляпаў з віцебскай філіі Фонду імя Л.Сапегі, Віктар Карняенка з гомельскіх «Грамадзянскіх ініцыятываў», Іна Кулей з берасцейскага Цэнтра «Вежа», Сяргей Мацкевіч з цэнтра «Супольнасьць» і Алесь Мілінкевіч з гарадзенскай «Ратушы». У статутных дакументах адзначаецца, што мэтай дзейнасці «БАРЦ» з'яўляецца садзейнічанне пабудове ў Рэспубліцы Беларусь грамадзянскай супольнасці і прававой дзяржавы праз падтрымку і развіццё грамадскіх ініцыятываў на мясцовым узроўні. У афіцыйнай адмове ініцыятарам стварэння новай арганізацыі прадстаўнікі Мінюста заявілі, што аб'яднанне не мае права займацца «распаўсюджваннем... інфармацыі пра статутную дзейнасць грамадскіх арганізацыяў... і аказаннем ім дапамогі...»

Не згодныя з падобнай фармулёўкай заснавальнікі аб'яднання звярнуліся ў суд. 11 кастрычніка ў Вярхоўным судзе была разгледжана скарга.На першым пасяджэнні адчувалася, што і пракурор, і суддзя досыць прыязна паставіліся да заяўнікаў, яны нават не зусім разумелі, у чым канкрэтна заключаюцца прэтэнзіі з боку Міністэрства юстыцыі. Але ўжо на наступным пасяджэнні супрацоўнікі суда змянілі свой погляд. А пракурор нават адкрыта сказаў, што скарга не можа быць задаволеная ў сувязі з палітычнай сітуацыяй. У выніку адмова ў рэгістрацыі арганізацыі «Б.А.Р.Ц.» застаецца дзейснай.

# «Паўстанне плебса» 1994 г., альбо чаму ў Беларусі няма зменаў

*Напрыканцы кастрычніка грамадскае аб'яднанне «Беларускія фабрыкі думак» сумесна з Берасцейскім навукова-адукацыйным цэнтрам «Логас» ладзілі ў горадзе над Бугам двухдзённы семінар «Каштоўнасці беларускага грамадства: незалежныя даследаванні».*

На сустрэчу былі запрошаныя прадстаўнікі партыяў, грамадскіх арганізацыяў, аналітычных цэнтраў і сацыялагічных груп, сродкаў масавай інфармацыі, выкладчыкі вышэйшых навучальных установаў горада і супрацоўнікі аблвыканкама. Дакладчыкі, а імі звычайна былі кіраўнікі вядомых незалежных аналітычных цэнтраў Беларусі, прадставілі на суд аўдыторыі свае меркаванні наконт каштоўнасцяў сучаснага грамадства. Дыскусіі, якія разгараліся пасля дакладаў, былі самай высокай адзнакай выказаным думкам. Самае ж моцнае ўражанне пакінула прамова доктара сацыялагічных навук, прафесара, кіраўніка Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў Алега Манаева, які даваў адказ на пытанне, чаму ў Беларусі няма зменаў. Яго пункт гледжання на гэтую праблему каштоўны ўжо тым, што яго нельга назваць ні апазіцыйным, ні прапрэзідэнцкім. Спрэчным, безумоўна, але менавіта спрэчка і ёсць крок да ісціны.

*Плебс вырашае лёс краіны*

Падмуркам для канцэпцыі аналітыка з'яўляецца цывілізацыйны аспект. Даследчык лічыць, што для таго, каб зразумець усю карціну цалкам, неабходна звярнуцца да ранняга сярэднявечча. Менавіта ў XII-XIII стст. у гэтым рэгіёне быў адвочны разлом цывілізацыяў: заходняй (альбо еўрапейскай) і усходняй (альбо еўразійскай). Апагею гэты разлом дасягнуў у XV-XVI стст., і гэта праявілася ва ўсіх сферах - рэлігійнай, палітычнай, эканамічнай. Так, існуе даволі важная розніца царкоўных інстытутаў еўрапейскай і еўразійскай цывілізацыяў. У першай - чалавек непасрэдна кантактуе з Богам, а царква выступае толькі ў якасці пасрэдніка. Свядома грамадзянін навучаецца браць адказнасць да сябе. Праваслаўная ж традыцыя навучае ўсю адказнасць перакладваць на ўладу, даючы ёй права выбару ва ўсіх жыццёва важных пытаннях. Калі паглядзець на палітычны аспект, то неабходна прыгадаць, што на тэрыторыі ВКЛ шмат беларускіх гарадоў валодалі Магдэбурскім правам - важным элементам сярэднявечнай дэмакратыі. Яна прадугледжвала выбарнасць мясцовых уладаў, высокую аўтаномнасць і самастойнасць тэрытарыяльных адзінак. У свой час еўразійская палітычная культура прадугледжвала і прадугледжвае абсалютную цэнтралізацыю ўлады на чале з нейкім уладаром - князем, царом, імператарам альбо прэзідэнтам. Механізм выбарнасці ў гэтым выпадку адсутнічаў. Такая ж розніца назіралася і ў эканамічнай сферы. Беларусі «пашчасціла» - менавіта праз яе і праходзіла мяжа паміж гэтымі цывілізацыямі. Беручы ў якасці матрыцы тэорыю стыку двух розных цывілізацыяў, А.Манаеў вылучае пяць фактараў, якія замінаюць таму, каб у сенняшняй Беларусі адбываліся змены:

1) геапалітычны фактар;
2) сацыяльная рэвалюцыя 1994 года;
3) вяртанне ў мінулае;
4) накіраваная ізаляцыя;
5) дзеянні апазіцыі.

**Геапалітычны фактар** - самы значны галаўны боль Беларусі. Гістарычна склалася так, што на тэрыторыі нашай краіны зараз існуюць дзве розныя Беларусі. Для таго, каб гэта ўявіць, неабходна параўнаць Англію і Расію XVII ст. Дзве зусім розныя краіны з абсалютна рознымі жыццёвымі прыярытэтамі. Але гэтыя краіны заўжды знаходзіліся далёка адзін ад другой. А жыхары заходняй і усходняй Беларусі стагоддзямі жылі і жывуць побач, паміж імі развіваліся інтэнсіўныя палітычныя, эканамічныя, культурныя адносіны, браліся шлюбы і г. д. Дзве цывілізацыі не проста суіснавалі, але і актыўна пранікалі адна ў другую.

Акрамя таго, гісторыя Беларусі - гэта гісторыя войнаў, што таксама паўплывала на менталітэт беларусаў. Пры гэтым заўсёды асаблівай жорсткасцю вылучаліся менавіта міжцывілізацыйныя канфлікты. Беларусь узмоцнена «цывілізоўвалі» як з Захаду, так і з Усходу. Беларусы незазбежна змяняліся, у іх пачала фарміравацца асцярожнасць, якая пераходзіла ў боязь. Гэта дазваляла выжыць у жорсткіх умовах, захаваць сям'ю і род, але адначасова гэта штурхала і да прыстасавальніцтва альбо нават да супрацоўніцтва з кожнай новай уладай. За гэты час мы проста прызвычаіліся трываць цяжкасці і нягоды акупацыі, успрымаючы адсутнасць годных умоваў жыцця амаль як належнае. У канцы XVIII ст. працэс паланізацыі беларускіх земляў з боку еўрапейскай цывілізацыі змяніўся рэзкім наступам еўразійскай цывілізацыі. Пачала праводзіцца татальная русіфікацыя. Змяняліся як эканамічная палітыка, так і сістэма адукацыі. У 20-я - 30-я гады еўразійскія каштоўнасці пачалі навязвацца больш жорсткімі метадамі. У гэты перыяд была знішчана значная частка нацыянальнай эліты. Пасля другой сусветнай вайны трэць альбо чвэрць насельніцтва Беларусі папаўнялася не столькі за кошт натуральнага ўзнаўлення, як за кошт міграцыі значнай масы насельніцтва з Расіі. Сюды прыязджалі сотні тысячаў носьбітаў іншага менталітэту, іншага жыццёвага укладу, еўразійскіх каштоўнасцяў. Прычым прыязджалі людзі бедныя, неўладкаваныя ў жыцці.

Свой адбітак пакінула і урбанізацыя перыяду 30-х - 80-х гг.. Насельніцтва гарадоў узрасло ў некалькі разоў, і праходзіла гэта за кошт вясковых жыхароў, якія вызначаюцца вялікім кансерватызмам. Горад не паспяваў «пераварыць», трансфармаваць свядомасць мільёнаў вяскоўцаў. Наадварот, гараджане праглыналіся сельскай псіхалогіяй, яе бяздумным пакланеннем перад уладай і спецыфічнай насцярожанасцю да дэмакратычных каштоўнасцяў.

У выніку, па-першае, мы маем несфармаваную нацыянальную самасвядомасць людзей. Па-другое, гэтая самасвядомасць да таго ж расколатая - на еўрапейскую і еўразійскую. Па-трэцяе, нацыянальна-дэмакратычная эліта пакуль недастаткова сфармаваная і развітая. Не хапае адпаведных структураў і вопыта правядзення сацыяльных трансфармацыяў у грамадстве.

*Заканчэнне на 4 стар.*

## НАВІНЫ

*** * * 28 кастрычніка 2000 года ў камінінай зале Цэнтра «Вежа» адбылося другое пасяджэнне «Клуба «На трох».**

У ім узялі ўдзел 26 чалавек, большасць якіх з'яўлялася прадстаўнікамі грамадскіх аб'яднанняў Брэсцкай вобласці. Праграма «Клуба «На трох», нягледзячы на даволі вольную назву, прадугледжвае цыкл семінараў, на якіх будуць абмеркаваныя пытанні юрыдычнага характару, справаводства і бухгалтэрыі ў грамадскіх арганізацыях. На другім семінары былі разгледжаны наступныя тэмы:

- агляд працоўнага заканадаўства Беларусі. Працоўныя адносіны, валанцёрская дапамога, выкананне работ па дагаворы падраду ў грамадскай арганізацыі. Дагаворы грамадзянска-прававога характару ў дзейнасці грамадскага аб'яднання;
- практычныя заняткі па справаводстве па тэмах "Асабовая і службовая дакументацыя", "Наменклатура справаў", "Фармаванне і афармленне справаў";
- асаблівасці налічэння заработнай платы ў грамадскім аб'яднанні, работа з грантамі.

Усяго адукацыйны цыкл "Клуба "На трох" прадугледжвае 4 семінары.

***Інфармацыйны аддзел «Каліва»***

*** * * 29 кастрычніка даследча-аналітычны клуб «Дзедзіч» ладзіў семінар «Асновы журналістыкі».**

У семінары бралі ўдзел студэнты, школьнікі і працоўная моладзь. Усе яны спрабу-юць свае сілы ў журналістыцы, з'яўляюцца сяб-рамі ДАК «Дзедзіч» альбо актыўна пішуць для аднайменнага бюлетэня. Трэнерамі на семінары выступілі Алесь Ляўчук, Зміцер Шыманскі і Ярына Дашына. Яны ў нетрадыцыйнай форме адказалі на пытанні, што такое журналістыка, жанры журналістыкі, крыніцы інфармацыі і праца з імі, як пісаць артыкулы. Штуршком для правядзення гэтага трэнінгу стаў семінар, які 12-14 верасня ў нашым горадзе для прадстаўнікоў рэгіянальнай прэсы праводзіў фонд IREX.

***Алесь Ляўчук***




*** * * 30 кастрычніка ў актавай зале сярэдняй школы №9 адбылося ўзнагароджанне пераможцаў і ўдзельнікаў Другога школьнага чэмпіянату Еўропы па міні-футболе, які ладзіў Самадзейны клуб па міні-футболе «Аматар».**

У гэтым сезоне турнір праходзіў пад дэвізам «Спорт – так, наркотыкі – не!» і ў ім бралі ўдзел 8 камандаў. Кожная каманда прадстаўляла інтарэсы адной з еўрапейскіх зборных. Напрыклад Францыю – СШ №7, Беларусь – СШ №9, Бельгію – СШ №20 і г. д. Чэмпіёнам Еўропы стала каманда Берасцейскага політэхнічнага тэхнікума, якая абараняла колеры зборнай Галандыі. Другім былі «французы» з СШ №7, а трэцяе месца для беларусаў заваявалі вучні СШ №9. Мэтай дадзенага праекта было далучэнне навучэнцаў горада да актыўнага ўдзелу ў сістэме арганізаваных спаборніцтваў грамадскай арганізацыі, прапаганда здаровага ладу жыцця, умацаванне міжнародных сувязяў.

Прызы для футбалістаў у гэтым годзе прадаставілі гарадскі камітэт па фізічнай

НАВІНЫ

культуры, спорце і турызме (старшыня Мікалай Мікалаевіч Рудзэнка) (граматы, дыпломы і два грашовыя прызы для пераможцаў), берасцейская філія «Маладога Фронту» (тры CD для лепшых снайпераў), Акцыянерное прадпрыемства «Брэстхлебапрадукт» (дырэктар - Аляксандр Іванавіч Мішкавец) (кнігі для чэмпіёнаў), Самадзейны клуб «Аматар» (крышталёвыя кубкі і памятныя сувеніры ў якасці індывідуальных прызоў), а таксама арганізацыя «Kids for Kidz» (Уэльс), якая даслала на адрас «Аматара» дзве скрыні са спартовай формай і мячамі. СК «Аматар» у наступным годзе плануе працягнуць правядзенне гэтых спаборніцтваў, якім на сённяшні момант няма альтэрнатывы і якія замянілі гарадскі чэмпіянат па футболе сярод сярэдніх школаў, што праводзіў гарадскі камітэт. У бліжэйшых жа планах арганізацыі - правядзенне традыцыйнага ўжо 10-га міжнароднага турніру на Каляды.

*Прэс-служба СК «Аматар»*



*** **2 лістапада Цэнтр «Вежа» і рэдакцыя бюлетэня «Каліва» прымалі гасцей - маладых рэпарцёраў з незалежнай газеты «Lyceum»** (пра пілотны нумар гэтага выдання можна прачытаць на 6 стар.). Гэтае выданне нарадзілася не проста так, яно нарадзілася з нагоды 10-годдзя ліцэя, але настолькі захапіла юных журналістаў - навучэнцаў гэтай установы, што яны вырашылі зрабіць «Lyceum» штомесячнай газетай. Пад час святкавання дня нараджэння свайго выдання ліцэісты дзяліліся сваімі думкамі наконт будучыні газеты, задавалі шмат пытанняў супрацоўнікам Цэнтра, слухалі парады спецыялістаў, якія папярэджвалі прысутных, што выданне газеты - гэта не толькі цікава, але і даволі цяжкі працэс.

Разам з тым арганізатары сустрэчы вырашылі запрасіць на пасяджэнне рэдактараў усіх школьных выданняў, каб, па-першае, перазнаёміць паміж сабой як мага больш энтузіястаў вучнёўскай журналістыкі, а па-другое, падзяліцца з імі сваім досведам і прапанаваць пэўную дапамогу. Тэлефанаванне паказала, што ў нашым горадзе школьная прэса развіта даволі слаба, але, як звычайна, не абышлося без выключэнняў. Так, выданне «Эхо» сярэдняй школы №9 друкуецца на працягу ўжо трох год, а супрацоўнікі газеты не раз бралі ўдзел у выдавецкіх семінарах, якія ладзілі берасцейскія грамадскія арганізацыі. Наадварот, газета 20-й школы хоць і мае доўгую гісторыю, але па-ранейшаму выходзіць у насценным выглядзе.

Відавочна, што кожнае з гэтых выданняў патрабуе пэўнай падтрымкі. Адны задаволяцца раздрукоўкай газеты, іншым будзе неабходна расказаць пра асновы вёрсткі і макетавання, пра працу журналіста і галоўнага рэдактара, пра кампутарныя выдавецкія праграмы і г. д.

У выніку было вырашана, што навучанне будзе распачата ў сярэдзіне лістапада і пройдзе ў выглядзе практычных заняткаў, а менавіта ў працэсе макетавання другога нумара «Lyceum».

Да гэтага працэсу былі запрошаныя ўсе прысутныя, незалежна ад таго, якія выданні яны прадстаўляюць.

*Сяргей Дуброўскі*

# «Паўстанне плебса» 1994 г., альбо чаму ў Беларусі няма зменаў

Асаблівую ролю ў сённяшняй «закансерванай» сітуацыі ў Беларусі адыграла **сацыяльная рэвалюцыя 1994 года**. Справа ў тым, што ў 1991 г. незалежнасць звалілася на беларусаў як снег на галаву. У адрозненне ад многіх краінаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, якія шмат гадоў змагаліся за правы чалавека, дэмакратыю і рынкавую эканоміку, мы свой суверэнітэт атрымалі, а не заваявалі. Між тым з пункту гледжання зменаў сацыяльнай структуры ў 1991 г. нічога не адбылося. Кіруючая эліта, якая дзесяцігоддзямі стаяла на чале, фактычна засталася без зменаў і засталася на сваіх пазіцыях як у эканоміцы, так і ў палітыцы. Таму ў 1994 г. партыйна-дзяржаўныя вярхі, пасля двух гадоў беларускай незалежнасці, задумалі ўзяць рэванш. У сваіх мэтах наменклатура вырашыла выкарыстаць самыя неадукаваныя, пасіўныя і адсталыя, г. зв. маргінальныя слаі насельніцтва, інакш гаворачы, плебс.

Гісторыя паказвае што рэвалюцыю палітычную без рэвалюцыі сацыяльнай уявіць немагчыма. Бальшавікі, захапіўшы ўладу, павінны былі ўмацаваць свае дасягненні сацыяльна. Таму тыя сацыяльныя суб'екты, што прадстаўлялі сабой эліту, былі знішчаны. Дарэчы, цывілізацыі пры любым грамадскім ладзе прадугледжвалі наяўнасць маргінальных слаёў, ці плебсу, г. зн. той часткі соцыуму, якая знаходзіцца на яго перыферыі. У палітычнай галіне плебс не мае доступу да палітычных рашэнняў, нават да самога кіравання. У эканамічнай - атрымлівае самую малую долю грамадскага прадукту. У культурнай - не ставарае культурных каштоўнасцяў. Гэта адбываецца не толькі таму, што плебсу не даюць гэтага рабіць, але і таму, што ён не можа і не хоча. Гэта група грамадства вылучаецца выразнымі дэвіянтнымі паводзінамі, і таму не сакрэт, што больш за ўсё правапарушэнняў адносіцца да плебсу. Зразумела, што ў нармальным грамадстве гэтая частка соцыуму знаходзіцца пад пастаянным кантролем. У 1917 г. бальшавікі паставілі на маладукаваныя, ігнаруючыя нормы грамадскіх паводзінаў і схільныя да агрэсіі маргінальныя групы. Толькі з сярэдзіны 20-х гадоў кіруючая партыйная наменклатура зноў пачала заганяць плебс на перыферыю. Падобныя сацыяльныя працэсы былі ўпершыню раскрытыя вядомым іспанскім філосафам Артэгай-і-Гасэтам у яго працы «Паўстанне мас».




У постсавецкі час гісторыя ведае толькі адзіны прыклад «паўстання мас» - у Беларусі ўзору 1994 г. Менавіта ўключэнне ў вялікую палітычную гульню плебсу дазволіла Лукашэнку абыграць і наменклатуру Кебіча, і лібералаў Шушкевіча, і нацыянал-дэмакратаў Пазьняка. Грандыёзныя абяцанкі Лукашэнкі трапілі ў цэль. Ён размаўляў простай мовай, зразумелай і даступнай мільёнам, асабліва сацыяльным нізам. Толькі адзіная частка соцыуму выйграла ў выніку гэтага «паўстання мас» - плебс (15-20%). Сённяшні дзяржаўны курс адпавядае іх надзеям, яны лічаць Лукашэнку сваім прэзідэнтам. Доказы гэтаму можна пабачыць паўсюль.

Вялікая палітыка ў нашай краіне манапалізавана. У эканоміцы прыватная ініцыятыва часта падпадае крымінальнаму пераследу. У ідэалогіі падкрэсліваецца выключнае становішча і годнасць бедных, і вылучаецца непаўнацэннасць багатых. Беларусь выпала з міжнародных палітычных працэсаў, яна адмаўляецца прымаць фінансавую дапамогу Захаду, не жадае праводзіць эканамічныя рэформы. Грамадскія адносіны будуюцца пад новую сацыяльную групу, якая раптам апынулася ў цэнтры ўвагі. Мова сённяшняй кіруючай эліты - гэта непрыстойныя, грубыя і жахлівыя суцэб. Лукашэнка - не стаўленік расійскіх спецслужбаў, ён прадстаўнік беларускіх сацыяльных нізоў, самага нізкага гатунку.

Дрэнна, што з кожным годам наша грамадства ўсё больш дэмаралізуецца і люмпенізуецца. І гэта бачна ва ўсім. У суцэльным збядненні насельніцтва. У грэбаванні элементарнымі прынцыпамі кіра-вання, калі на пасаду міністра запрашаецца чалавек, які ні дня не працаваў у гэтай сферы. У мове, якая нагадвае лаянку жыхароў камунальнай кватэры.

Жахліва і тое, што эліта - сапраўдная эліта - знаходзіцца сёння на перыферыі соцыуму і згубіла магчымасць не толькі ўплываць на становішча, але і проста ўдзельнічаць у палітычных і іншых сацыяльна значных працэсах. Сацыяльны слой, які ўмоўна можна назваць беларускім сярэднім класам, пасля таго, як эліта і плебс памяняліся месцамі, ператварыўся ў большасць, якая вагаецца то ў адзін, то ў другі бок: ён папросту згубіў звычайныя сацыяльныя і маральна-этычныя арыенціры. Прафесіяналы зараз не ў пашане. Які сэнс за ніякі заробак удасканальваць свае майстэрства ўрачу, настаўніку, журналісту і нават высокакваліфікаванаму рабочаму?

Зразумела, што пэўная сацыяльная група (дзяржкантралёры, бэпээсэмаўская наменклатура, сілавыя структуры і інш.) атрымалі пасля 1994 г. нейкія дывідэнты. Але ўсе гэтыя сацыяльныя групы не замянілі эліту: яны працуюць не на сябе, а на люмпена. Сапраўдны герой нашага часу - гэта той, хто не можа і не хоча браць на сябе адказнасць за важныя грамадскія працэсы. Той, хто адчувае сябе ў такіх умовах камфортна. Зноў прапагандуецца роўнасць, якая цягне за сабой зайздрасць. У нас стала дрэнным тонам вылучацца з натоўпу, быць лепшым, цікавейшым за астатніх.

У Беларусі склалася ўнікальнае становішча. У нас амаль не засталося рэальных рычагоў змены існуючага раскладу сіл.

Першае. Няма неабходных фінансавых рэсурсаў.

Другое. Адсутнічаюць кадравыя рэсурсы. Уладныя прафесіяналы запалоханыя. А прафесіяналы, якія знаходзяцца ў апазіцыі, за прэзідэнтам ужо не пойдуць. Грамадства ўпарта адвучваюць ад прафесіяналізму.

Трэцяе. Існуе пэўны страх у самога Лукашэнкі. Ён выкліканы тымі абставінамі, што прэзідэнт як раней не разумеў эліту, так і не разумее яе зараз. Таму апора робіцца па-ранейшаму на сацыяльныя нізы. Пры любым варыянце далейшага развіцця падзеяў, хто б ні прыйшоў да ўлады, наступствы сённяшняга «гаспадарання плебсу» будуць сказвацца і пераадольвацца вельмі доўга. Пераадоленне дадзенай «сацыяльнай разрухі» можна параўнаць толькі з пасляэвалюцыйным альбо пасляваенным аднаўленнем краіны. Хоць мы маем справу не з фізічнымі ахвярамі, а з іншага роду стратамі, але яны не робяцца ад гэтага менш адчувальнымі для нас.

*Ян Месага па матэрыялах даклада Алега Манаева «Беларусь-2000: Чаму няма зменаў?».*

***Заканчэнне ў наступным нумары.***

# Программа Альянса Фонда Каунтерпарт объявляет в Беларуси новый конкурс заявок на получение гранта

В конкурсе могут принять участие только заявки от зарегестрированных и перерегистрированных общественных организаций, согласно закона Республики Беларусь об общественных организациях №3254-XII от 04.10.1994 и Декрета Президента от 26.01.1999. Заявки принимаются до **16.00 часов 24 ноября 2000 г.**

Цель программы - вовлечение общества в решение медицинских проблем посредством реализации проектов общественными организациями в сфере репродуктивного здоровья/планирования семьи, рака грудной железы, профилактики и лечения ВИЧ/СПИД, наркотической зависимости, туберкулеза и заболеваний, связанных с нехваткой йода.

Основные критерии программы:

· В конкурсе не могут принять участие общественные организации, работающие в настоящее время в рамках текущего гранта CAP.

· Приветствуются пилотные проекты, ориентированные на предоставление/обмен информацией (например, кампания в СМИ, открытие интернет сайтов, публикация в СМИ/издание брошюр, проведение круглых столов, семинаров и рабочих встреч, в особенности направленных на способствование развитию сотрудничества между представителями медицинских учреждений и общественными организациями, работающими в этой сфере).

· Необходимо подтверждение наличия оборудованного рабочего офиса.

· Организация должна подтвердть опыт работы в области здравоохранения и предоставления информации.

· Необходимо предоставить подтверждение от учреждения/организации, предоставляющей помещение для осуществления деятельности по проекту.

· Сумма потенциального гранта не более $5000 США.

· Собственный вклад организации должен составлять не менее 10%.

· Срок реализации проекта - 3 месяца.

· Предпочтение будет отдаваться проектам от организаций, которые работают в одном из перечисленных выше направлений и смогут использовать средства гранта для поддержания этой деятельности.

· Предпочтение будет отдаваться проектам, реализуемым в регионах и тем НПО, которые сотрудничают с организациями, работающими в сфере охраны злоровья/окружающей среды.

Заявка на получение гранта должна быть подана на белорусском/русском и английском языках. **К заявке необходимо приложить свидетельство о регистрации, копию устава организации.** Все вышеперечисленные материалы должны быть предоставлены **в 3 экземплярах.**

Заявки, не соответствующие критериям поrраммы или требованиям CAP, а также поданные после указанного срока, к рассмотрению не принимаются.

Форму оформления завки и любую дополнительную информацию можно получить в офисе CAP в г. Минске, в региональных ресурсных центрах и у представителей CAP:

| | | |
|---|---|---|
| г.Гродно | **Витавт Рудник** | (0152) 96 74 73 т/ф |
| | **Светлана Рудник** | (0152) 96 74 78 т/ф |
| г.Могилев | **Игорь Шарый** | (0222) 22 97 82 |
| г.Витебск | **Михал Шлык** | (0212) 22 49 25 т/ф |
| | **Валерий Жураковский** | (0212) 23 84 02 |
| г.Гомель | **Алесь Корниенко** | (0232) 57 75 38 |
| | **Юнеля Сальникова** | (0232) 78 18 30 |
| г.Минск | **Светлана Зинкевич** | (017) 217 77 73 |
| г.Брест | **Татьяна Хотей** | (0162) 20 34 92 |

CAP проводит тренинги для общественных организаций, в т.ч. тренинг «Написание заявки на финансирование».

**По всем вопросам, относительно программы тренингов связывайтесь с Еленой Гагалинской или Светланой Зинкевич по тел. (017) 217 77 73/74.**

# Цэнтар «Выдавецкая ініцыятыва» праводзіць набор слухачоў у «Школу незалежнага выдаўца»

У сваёй школе мы прапануем новы падыход да прынцыпаў і кірункаў навучаньня. Канцэптуальна мы зыходзім зь ідэі, што ва ўмовах малога выдавецтва такія паняцьці, як рэдактар, карэктар, журналіст, фотакарэспандэнт, стыльрэдактар, дызайнер, шыхтоўшчык і г.д. страчваюць сваю адасобленасьць, якая, безумоўна, апраўдана ва ўмовах вялікага выдавецтва. Досьвед паказвае, што ўсе ўдзельнікі такой малой выдавецкай групы павінны быць унівэрсаламі, валодаць практычна ўсімі вышэйпералічанымі спецыяльнасьцямі, а па магчымасьці ведаць увесь працэс падрыхтоўкі выданьня, пачынаючы ад збору інфармацыі і сканчаючы друкам і распаўсюджваннем. Асабліва гэта датычыцца галоўных рэдактараў. Толькі пры выкананьні гэтых умоваў тыя некалькі чалавек, якія ўзяліся арганізаваць выданьне, маюць шанцы не абмежавацца выпускам двух-трох безнадзейных нумароў

Мы ставім перад сабой наступныя задачы, якія зьбіраемся вырашыць пад час правядзеньня курсаў:

* Падрыхтоўка да таго ўзроўню, калі атрыманыя веды дадуць магчымасьць правільна падысьці да арганізацыі выдавецтва і дазволяць працягнуць далейшую прафесыйную падрыхтоўку як самастойна, гэтак і на іншых, больш сьпецыялізаваных курсах;

* Выпрацоўка навыкаў комплекснага вырашэньня праблемаў выдавецтва, разуменьня таго, што выдавецтва - гэта сукупнасьць узаемазалежных праблемаў і задачаў

Умовы: Навучальны курс аб'ёмам 80 гадзін, працягласьць - 10 дзён

Навучаньне бескаштоўнае. Праезд за кошт навучэнцаў. Прадастаўляецца месца для пражываньня. Кожнаму ўдзельніку аплочваецца самастойнае харчаваньне на ўвесь тэрмін навучаньня

Усе жадаючыя навучацца ў «Школе незалежнага выдаўца» павінны запоўніць анкету і даслаць яе на адрас Цэнтра «Выдавецкая Ініцыятыва»

Анкету можна атрыМаць у Цэнтры «Вежа»

**Для кантактаў:**

tel./fax (017) 231 94 05 (запытаць Зьміцера Вайцэховіча).

e-mail vi@cvi.lingvo.minsk.by

# *"Архіў найноўшае гісторыі" пры Грамадзкім аб'яднаньні "Дыярыюш" зьвяртаецца з прапановаю аб супрацоўніцтве.*

*У 1996 годзе была запачаткаваная грамадзкая ініцыятыва "Архіў найноўшае гісторыі". Архіў ад пачатку стаў адкрытай грамадзкай структурай, асноўная мэта якой – стварэньне агульнанацыянальнага фонду інфармацыі, зьвязанага з гісторыяй паўставаньня дэмакратычнага беларускага грамадзтва XX стагодзьдзя. Дзейнасьць Архіву сягае па некалькіх кірунках.*

*У 1998 годзе АНГ падрыхтаваў "Каталёг беларускага пазацэнзурнага друку", дзе было апісана звыш двухсот самвыдатаў, якія выйшлі ў краіне ад 1980 на працягу дзесяці год. Каталёг быў успрыняты гісторыкамі, дасьледчыкамі і калекцыянэрамі зь вялікай цікавасьцю. На сёньня Архіў працягвае збор і сыстэматызацыю пазацэнзурнага друку. Але ўсьведамляючы, што пры сёньняшніх палітычных варунках рух самвыдату актывізаваўся, па аб'ектыўных прычынах АНГ цяжка адсочваць усе нумары вядомых і новых самвыдатаў. Таму мы зьвяртаемся да Вас з просьбай дасылаць на адрас ГА "Дыярыюш" кожны новы нумар вашага выданьня і, пры мажлівасьці, дасылаць старыя нумары. Калі ласка, паведамце нам, якія рэгіянальныя самвыдаты Вам вядомыя ці маюцца ў Вас у наяўнасьці. Пры патрэбе мы можам аплаціць Вам паштовыя паслугі.*

*Яшчэ адзін кірунак дзейнасьці Архіву — збор фонду "Палітычныя партыі, недзяржаўныя арганізацыі", папаўненьне якога магчыма пры цесным супрацоўніцтве з суб'ектамі грамадзкага жыцьця. Мы былі б удзячныя, калі Вы будзеце перасылаць нам неактульную партыйную дакумэнтацыю, друкаваную прадукцыю (адозвы, улёткі, звароты і інш.), прэс-рэлізы, рэклямкі, прэсавыя водгукі на Вашую дзейнасьць і да т.п., — а да таго ж, калі б вы ўключылі ГА "Дыярыюш" (АНГ) у сваю пастаянную сыстэму рассылкі. Для нас цікавае супрацоўніцтва з зарэгістраванымі і незарэгістраванымі арганізацыямі.*

*Спадзяемся на ўзаемаразуменьне і дапамогу з Вашага боку!*
*Загадзя ўдзячныя!*

***Кіраўнік ГА "Дыярыюш" Ларыса Андросік, архівіст Сяргей Сахараў.***

*Нашы кантакты: а/с 128, 220064, Менск, БЕЛАРУСЬ.*
*Тэл/факс: (017) 227 51 09. E-mail: ss@dyjaryush.org.by*




З'яўленне на паліцах малатыражных выданняў незалежнай газеты ліцэя №1 з аднайменнай назвай «Lyceum» амаль выключна звязана з 10-гадовым юбілеем гэтай навучальнай установы, які 19 кастрычніка святкаваўся ў ЦМТ. Зразумела, што стартавы шасцістаронкавы нумар рэдакцыйны калектыў, а гэта навучэнцы і выкладчыкі ліцэя, цалкам прысвяцілі сваёй Alma Mater.

Газета пачынаецца з інтэрв'ю дырэктара ліцэя Святланы Мікалаеўны Сямёнавай, якая расказала, як пачынаўся першы ліцэйскі год. Аказалася, што ён быў самым цяжкім. Навучальны год ужо пачаўся, а будынак ліцэя яшчэ не быў падрыхтаваны. Прыйшлося праводзіць заняткі ў аўдыторыях Берасцейскага інжынерна-тэхнічнага інстытута. Адначасова пасля заняткаў ішлі ў ліцэй і працавалі: клеілі шпелеры, фарбавалі, збіралі мэблю. Працавалі разам: і дзеці, і настаўнікі. Заняткі пачаліся 10 кастрычніка. Тады заснавальнікі не ведалі дакладна, што такое навучальная ўстанова новага тыпу, ім прыходзілася пазнаваць гэта паступова, працуючы і назапашваючы досвед.

Аўтар другога матэрыялу, які піша пад цудоўным псеўданімам Сонейка, распавядае пра тое, што на самой справе ўяўляе сабой «Ліцэйская дзяржава». «Ліцэй - гучыць горда, бо для паступлення сюды неабходна вытрымаць экзамены. Але гэта толькі пачатак: ад экзаменаў адчапіцца вельмі цяжка, яны (разам з залікамі) чакаюць у канцы кожнага семестра і маюць назву «летнія» і «зімнія» сесіі. Ліцэй - гэта не проста навучальная ўстанова, гэта стыль жыцця. Ён больш падобны на дзяржаву. Тут ёсць свая ліцэйская дума, свой прэзідэнт (на сённяшні дзень гэта Максім Буракоў). Прынята ў ліцэі і свая «нацыянальная форма адзення». Ёсць у ім і нацыянальная мова: літаратурна-класічная руска-беларуска-польска-ангельска-нямецка-французска-іспанская з дадаткам на перапынках сучасных слэнгавых выразаў.» Але галоўнае, што ў ліцэі адсутнічае адназначнасць - гэта прыкмета разнастайнасці і руху наперад.

Цэнтральнае месца ў газеце займае артыкул «Друзья, прекрасен наш союз», з якога можна даведацца пра традыцыю святкавання 19 кастрычніка дня ліцэіста. Гэтае свята мае дзесяцігадовую гісторыю. Пачалося ўсё ў 1990 г., калі першыя ліцэісты з-за адсутнасці залы сабраліся каля вогнішча і ў гэтых нефармальных абставінах пакляліся адзначаць 19 кастрычніка як самае галоўнае свята ліцэя. На непасрэдную падрыхтоўку свята неабходна недзе 2-3 тыдні, але фактычна арганізацыя і падрыхтоўка цягнецца год. Свята патрабуе абсалютнага ведання культуры эпохі і творчасці А.С.Пушкіна. Пад час урачыстасцяў ліцэісты абавязкова апранаюцца ў адзенне пушкінскіх часоў, спяваюць «Gaudeamus», паказваюць традыцыйную тэатральную пастаноўку «На 59 градусе Паўночнай шыраты» і г. д.

Акрамя таго ў газеце можна прачытаць і пра спецыяльны беларускі факультэт, і пра ліцэйскі клуб «Што? Дзе? Калі?», і пра «летапіса справаў ліцэйскіх» Святлану Зялінскую і яшчэ пра шмат чаго цікавага. Карацей, першы блін у маладых журналістаў-ліцэістаў не быў камяком і атрымаўся вельмі годным. А таму «Каліва» віншуе ліцэй не толькі з 10-гадовым юбілеем, але і з цудоўнай газетай, якую, спадзяемся, чакае такі ж поспех, як і саму Alma Mater!

Галоўны рэдактар Аляксей Краквін. Адрас рэдакцыі: Берасце, вул. Арлоўская, 63. Тэл. 42-50-75.




Выбары - асноўная тэма сёмага нумара бюлетэня «Дзедзіч». Згодна меркаванню галоўнага рэдактара, выбары ў Берасці не адбыліся з прычыны даволі актыўнай кампаніі па іх байкатаванню. У рамках гэтай кампаніі 8 кастрычніка быў арганізаваны мітынг, які аказаўся самым буйным у рэспубліцы, праводзілася масавае ўлётачнае інфармаванне насельніцтва і, галоўнае, у назіранні за выбарамі на Берасцейшчыне ўзяла ўдзел значная колькасць грамадскіх назіральнікаў - сябраў дэмакратычных партыяў, няўрадавых арганізацыяў і прафсаюзаў, што прадухіліла магчымасці масавых фальсіфікацыяў. Сябры даследча-аналітычнага клуба «Дзедзіч» таксама бралі ўдзел у назіранні за выбарамі, таму частка матэрыялаў бюлетэня - непасрэдны рэпартаж з месца падзеяў. Трэба адзначыць, што аўтары «назіральніцкіх артыкулаў» Ярына Берасцейская і Данута Раманоўская не заўважылі ніякіх асаблівых парушэнняў пад час галасавання, і адзінае, што іх нейкім чынам шакіравала, гэта паводзіны саміх выбаршчыкаў - у аснойнай большасці людзей сталага ўзросту.

Вынікам жа правалу выбараў у Берасці было распараджэнне старшыні аблвыканкама «Аб некаторых мерах па забеспячэнні правядзення другога тура выбараў», дзе ўлада адкрыта прадэманстравала сваё стаўленне да свабоды грамадзянаў у адносінах да ўдзелу альбо няўдзелу ў выбарчай кампаніі. Гэтае распараджэнне разам з выняткамі з выбарчага і крымінальнага кодэкса Беларусі газета змяшчае на 5 старонцы. Там жа можна даведацца і пра выбары дэпутатаў у мясцовыя Саветы па Заходняй Беларусі, што праходзілі ў студзені-сакавіку 1940 г. У той час «насельніцтва паказала цуды энтузіязму. Многім проста не цярпелася прыйсці на выбарчы ўчастак: так, бабуля сямідзесяцігадовага ўзросту з'явілася на ўчастку ў чатыры гадзіны раніцы. У некаторых гарадах выбары былі цалкам закончаны ў 10-12 гадзінаў раніцы. Колькасць выбаршчыкаў, якія прыйшлі на галасаванне склала 96% ад агульнай колькасці».

Апошняя частка публікацыі «Гісторыя катавання беларускай мовы» расказвае пра дзейнасць першага прэзідэнта Беларусі, які ў 1996 годзе так зраўняў у правах расейскую і беларускую мовы, што сёння беларусы зноў павінны супраціўстаяць уяўленням пра сябе як пра мужыкоў у лапцях. «Адносіны насельніцтва да прадпрымальнікаў» - менавіта такую назву мае матэрыял перадапошняй старонкі. Ён з'яўляецца комплексным аналізам вынікаў анкетавання, які сярод жыхароў горада Баранавічы праводзілі студэнты Баранавіцкай філіі Беларускага інстытута правазнаўства. Праведзенае анкетаванне паказала, што працэс зменаў грамадскай свядомасці ў бок рынкавых адносінаў пачаўся, але ідзе ён пакуль несвядома і даволі марудна, бо дзяржава не імкнецца падтрымліваць змены ў краіне.

Застаецца толькі паведаміць, што сёмы нумар выдання выйшаў з васьміпалосным дадаткам, дзе цалкам друкуецца артыкул-разважанне Віктара Дашука «А хто там ідзе?». Аўтар распавядае пра сітуацыю ў Беларусі з пункту гледжання нармальнага чалавека і прыходзіць да несуцяшальнага выніку, што Беларусь - краіна суцэльнага халуйства. «Дваццаць першае стагоддзе можа стаць стагоддзем знікнення беларусаў. Нацыя, нядольная на пратэст, павінна загінуць, знікнуць сярод іншых народаў - гэта Закон Космасу.»

№ 4-5 2000 год **НЕРУШ**

ЭКАЛАГІЧНЫ ІНФАРМАЦЫЙНА - АДУКАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Баранавіцкае моладзевае грамадскае аб'яднанне «Цэнтр экалагічных і сацыяльных даследаванняў і інфармацыі «Неруш-Цэнтр» з зайздросным пастаянствам вось ужо пяты год выдае свой экалагічны бюлетэнь «Неруш». Чарговы нумар выдання атрымаўся спецыялізаваным і быў прысвечаны экалагічным аспектам спажывання тавараў і паслуг. Рэдакцыя бюлетэня імкнулася аб'яднаць у адным нумары матэрыялы, якія кранаюцца самых розных пытанняў - ад уплыву вулічнага асяроддзя на чалавека да экалагічных аспектаў аховы здароўя.

Гэта ўжо чацвёрты выпуск падобнага кшталту, які накіраваны на спажыўца. Першы быў выдадзены па праграме TASIS (№3 1999г.), другі быў прысвечаны экалагічнай бяспецы (№4-5 1999г.), трэці - пытанням энергазберажэння (№1 2000г.). Атрымальнікі бюлетэня - навуковыя ўстановы, бібліятэкі, грамадскія арганізацыі і інш., што дазваляе ахопліваць даволі вялікую групу зацікаўленых.

Нумар пачынаецца з артыкула «Атрута ў школьным партфелі», дзе паведамляецца, што большая частка пісьмовых прыналежнасцяў (ручкі, лінейкі, транспарціры) вырабляюцца з пластыку. Адным з найбольш небяспечных палімераў з'яўляецца полівінілхларыд. У нармальным становішчы ён не аказвае ніякага ўздзеяння на дзіцячы арганізм, але пры сутыкненні з кіслатой (хімічная рэакцыя можа адбывацца, калі школьнік грызе сваю ручку) і пры награванні (хлопцам вельмі падабаецца рабіць г. зв. «дымавухі») гэты палімер раскладаецца і шкодныя рэчывы трапляюць у чалавечы арганізм. Так пры спаленні полівінілхларыд утварае атрутны газ фасген і шэраг дыяксінаў, якія могуць выклікаць рак лёгкіх і печані. На Захадзе ўжо распрацавана праграма адмовы ад гэтага таннага, але шкоднага для чалавека палімеру. Аднак яшчэ доўга нам прыйдзецца сутыкацца з рэчамі з полівінілхларыду. Не трэба спяшацца і са спальваннем восенню смецця. Дым спаленай травы ўтрымлівае ўсе тыя

рэчывы, якія яны набралі на працягу летніх месяцаў. Лепш за ўсё закампасіраваць смецце і выкарыстаць вясной у якасці угнаення. Гума, што трапіла ў вогнішча, утварае сажу і серныя злучэнні, што выклікаюць рэспіраторныя захворванні. Нейлон і паралон пры спальванні ўтвараюць цыяніды і г. д.

Даволі значную пагрозу здароўю аказвае і, на першы погляд, просты хатні пыл. Між тым, пыл - гэта мацнейшы побытавы алерген. Выклікаюць гэтую алергію мікраскапічныя істоты - кляшчы-сапрафіты. Самі кляшчы бяспечны, але трэба сцерагчыся прадуктаў іх жыццядзейнасці. Старыя падушкі на 25-30% складаюцца з пылу, сапрафітаў і іх экскрыментаў.

Акрамя таго з бюлетэня можна даведацца пра тое, як змагацца з ракам, захаваць цеплыню ў кватэры і які ўзровень гуку забяспечыць вам альбо вашым суседзям глухату. Нумар быў падрыхтаваны з выкарыстаннем унікальных матэрыялаў экалагічнай бібліятэкі МГА «Цэнтр экалагічных і сацыяльных даследаванняў і інфармацыі «Неруш-Цэнтр».




Наш спецыяльны рэгіянальны карэспандэнт нядаўна даслаў у «Каліва» жнівеньскі бюлетэнь Бярозаўскага БэПэСэМа пад назвай «Взгляд». Падобныя выданні трапляюць да нас даволі часта. Так, год таму давялося пазнаёміцца з адыёзным берасцейскім выданнем «Чем живёшь, БПСМ!», які ўразіў нейкай шалёнай ганарлівасцю і самалюбаваннем. Між тым, для гэтага не існавала ніякіх падставаў, бо бюлетэнь быў выкананы як кампазіцыйна, так і інфармацыйна на такім нізкім пазёме, што акрамя смеху не выклікаў нічога.

«Взгляд» вяртае нас у далёкі 1987 год. Менавіта адтуль і назва газеты, і выява Віктара Цоя, і цытата з яго песні «Перемен, мы ждём перемен». Невядома якіх зменаў чакаюць бэпэсэмаўцы, але, калі меркаваць па матэрыялах іх штотыднёвіка (а менавіта такую перыядычнасць і дэкларуе выданне), іх змены скіраваныя на тое, каб зноў аказацца ў камуністычна-камсамольскім учора. Нават гераіня першага артыкула, загадчык аддзела па справах моладзі РВК, акрэсліла выданне як баявы лісток. Уразіла, што нават гэтая жанчына-чыноўнік не спужалася назваць галоўны козыр БПСМ - ільготы, справядліва адзначыўшы, што колькасць сяброў - гэта далёка не заўсёды якасць. У параўнанні з ёй, інтэрв'ю з сакратаром пярвічнай арганізацыі «Берёзастройматериалы», які распавядаў пра другі з'езд БПСМ, выглядае як ванільны сіроп. Асабліва яму спадабалася, што іх пільна ахоўвалі. Нават, калі адзін з хлопцаў вырашыў прачытаць дзяўчыне вершы, за ім накіравалася ахова.

Больш нічога цікавага «Взгляд» не прапанаваў, хоць і цяжка змясціць шмат матэрыялаў на адной старонцы farматам А4. Нягледзячы на такі малы фармат, над штотыднёвікам працуюць 7 чалавек, пяць з якіх займаюць у выданні розныя адказныя пасады. Наклад «Взгляда» 50 экз.

# Сказ пра тое, адкуль пайшла зямля мрояў, хто першы пачаў князяваць і лётаць на паветраным шары

У XX ст., асабліва пасля рэформаў 50-60-х гг., быў распачаты пераход СССР да капіталізму. Развіццё капіталізму прывяло да інтэнсіўнага фарміравання нацый. Асабліва ярка гэта праявілася ў шматнацыянальнай Беларускай імперыі. Шматлікія народы Беларусі сталі ўсё больш імкнуцца да самастойнасці і незалежнасці. Менавіта таму ў канцы XX стагоддзя шырокае развіццё, нягледзячы нават на такія з'явы, як "застой" і "запой", шырокае развіццё атрымлівае нацыянальны рух. Але ж у такой велізарнай і шматнацыянальнай краіне, як Беларусь, толькі адзінкі нацыянальнасцяў дасягнулі такой вышыні развіцця нацыянальнага руху, на якой з'яўляецца магчымасць атрымаць альбо заваяваць незалежнасць. Гэта расейцы, украінцы, казахстанцы, французы, дзікія плямёны амерыканцаў, што жывуць на высачэзных гарах Беларускай федэрацыі, некаторыя народы Каўказа і мроеўцы. Асабліва націск неабходна паставіць на развіцці нацыянальнага руху апошніх. У параўнанні з буйнымі і свабодалюбівымі мроеўцамі баскі і ічкерыйцы выглядаюць проста немаўлятамі.

А паколькі Беларуская імперыя з даўніх гадоў - самая вялікая краіна ў свеце, нацыянальнае пытанне ў ім было самае цяжкае. А тут яшчэ апазіцыйна настроеная студэнцкая моладзь з Менскай мастацкай вучэльні, мабыць капіруючы Кастуся Каліноўскага, малавядомага беларускага паўстанца, стварае свой тайны гуртон. У 1981 г., зараз ужо малавядомы, але ў свой час адыграўшы важную ролю, малады хлапец з нейкім небеларускім імем Лявон узначальвае настворанае тайнае таварыства. Праўда, сёння накошт узначальвання спадаром Лявонам гуртка ідуць досыць сур'ёзныя спрэчкі (гл. Праграму "Рэзананс" за 04.03.00). Адныя сцвярджаюць, што ён з'яўляўся ў той час сапраўдным лідэрам гуртка, другія заяўляюць, што ён проста быў больш-менш актыўным яго членам і не прынёс папулярнасці ідэі "пагалоўнай мроявізацыі". Пакінем гэтыя спрэчкі для навукоўцаў-непрафесіяналаў і пяройдзем да таго моманту, калі пачаўся сапраўдны адлік гісторыі НРМ.

Будзем лічыць, што гэта момант паступлення часткі калектыву ў Менскую мастацкую вучэльню, якая ў свой час адыграла не менш важную ролю для ўтварэння мроеўскай дзяржаўнасці, чым Віленскі з Пецярбургскім універсітэтам разам узятыя.

І вось мы набліжаемся да таго моманту, як у аднаго з сучасных міністраў NRM пачало стварацца ўсведамленне сваёй адказнасці за будучы лёс МРОІ. Вы можаце нават уявіць сабе маладога чалавека з натхнёным тварам. Ужо тады ён не наведваў дыскатэкі, якія былі перапоўненыя беларускай музыкай. Простыя людзі нават не здагадваліся пра існаванн нацыянальнай мроеўскай музыкі. Ужо тады непаўнагадовы юнак меў свае сталыя, сур'ёзныя погляды. Тыя, хто вучыўся з ім разам, яшчэ і зараз памятаюць яго, калі ён у шаліку сваёй адмысловай паходкай крочыў па калідорах роднай вучэльні. Дарэчы, з шалікам ён амаль ніколі не развітваўся. Ці не нагадвае ён вам гэтак такіх вядомых беларускіх палітыкаў, як сп. Вінцук Вячорка і Астэп Бэндэр?

*Летапісец Мрой Берасцейскі*

Працяг будзе



## HIT-PARAD'2000-kastryčnik

1. «Песьні пра каханьне» **N.R.M.**
2. «Паветраны шар» **N.R.M.**
3. «Try čarapachi» **N.R.M.**
4. «Čystaja-śvictłaja» **N.R.M.**
5. «Край ты мой, край» **Народны альбом**
6. «Белая лебедзь» **Кася Камоцкая**
7. «Простыя словы» **Народны альбом**
8. «Вологда» **Песьняры**
9. «Cielepaty» **N.R.M.**
10. «Ехали уроды на поминки» **Нейро Дюбель**
11. «Katuj-ratuj» **N.R.M.**
12. Meha-hit usich časou i narodaû «Надзенька» **Народны альбом**

### МЫ ВОШЛИ В ПЕРВУЮ ФАЗУ...

В декабре начнет реализовываться **Программа развития женского лидерства в Беларуси**, проводимая Heartland International (Чикаго, США). О данном проекте мы писали в предыдущем номере "Каліва".

Первая фаза проекта представляет собой серию семинаров, направленных на развитие и усиление лидерских способностей группы женщин в Бресте, Минске и Гродно. 8 декабря 2000 в г. Бресте пройдет семинар "Развитие женского лидерства", на котором будет обсуждаться возможность усиления женского лидерства в Беларуси, а также разработка и расширение программы женского лидерства как неформальной сети женщин-лидеров.

Оставить свою заявку на участие в семинаре и задать вопросы можно по телефону: (0162) 20-34-92 (Александра Берёзова).

# Некалькі класічных замалёвак з жыцця аднаго маладафронтаўца Х ("Ікс", а не "Ха" і не "Ба")

## Частка IV. Х і беларуская рэчаіснасць.

* * * Аднойчы адзін маладафронтавец Х атрымаў на пейджэр дзіўнае пасланне: «Привет, Таня, срочно зайди по такому-то адресу». Адрас для Х быў знаёмы - гэта быў адрас яго сяброў. «Яны што, здзекуюцца ці напіліся ўсе там у дым, клічуць мяне жаночым імем. Добра, зараз я да іх завітаю і дам у косці кожнаму», - падумаў Х і рушыў па пазначаным адрасе. Калі ён зайшоў у пакой і грозна запытаўся, хто забаўляецца, аказалася, што яго калегі і не думалі жартаваць, а замест «Привет, Таня» павінна было быць напісана «Прывітанне». На жаль, аператарка зусім не сябравала ні з беларускай мовай, ні з Х, бо потым ён яе таксама адшукаў.




* * * Аднойчы аднаму маладафронтаўцу Х было вельмі сумна, і каб неяк развеяцца, ён рушыў у Брэсцкую крэпасць, каб павандраваць у цішы каменняў. Абапёршыся на парапет маста, ён стаяў і зачаравана глядзеў у Буг, малюючы ў думках карціну сваёй будучай перамогі на прэзідэнцкіх выбарах. Раптам ззаду раздаўся нейкі знаёмы усім мітынгоўшчыкам пах гумавай дубінкі. Х павярнуўся і, сапраўды, перад ім нібы з-пад зямлі выраслі два міліцыянты. Адзін з іх, паказваючы рукой некуды ў бок, адразу звярнуўся да Х з пытаннем:

- Гэта твае бутэлькі?

Х скасіў вочы ў прапануемым кірунку, заўважыў дзве пустыя шклянкі і, усё яшчэ знаходзячыся пад магічным уплывам сваёй віртуальнай перамогі на выбарах, адказаў:

- Не мае, бярыце, калі ласка.

І толькі па дарозе дамоў ён падумаў што прапанаваў міліцыянтам. Дарэчы, бутэлькі яны не ўзялі, напэўна, гэта была не іх кантрольная тэрыторыя.

* * * Аднойчы адзін маладафронтавец Х клеіў на слупы налепкі «Байкот-2000», і за ім палову ночы з крыкам «Дык вось хто мне лабавое шкло сапсаваў!», ганяўся нейкі кіроўца, які амаль не сарваў усю кампанію байкатавання. Астатнюю палову ночы яны клеілі налепкі разам, але не на слупы, а на лабавыя сцёклы машынаў, што вельмі спадабалася кіроўцу.

* * * Аднойчы адзін маладафронтавец Х не пайшоў на выбары. І ніхто б гэтага не заўважыў, калі б Х не расказаў пра гэта сваім сябрам, ворагам, напісаў у газеты, паведаміў на радыё і тэлебачанне. Праз некаторы час Х упэўніўся, што ён адзін змагаецца за дэмакратыю, пакуль улада спецыяльна для Х не склала 2-хтомны спіс з імёнамі ўсіх непрагаласаваўшых.

---

# Конституция Белобрысии

*Продолжение обыденного законотворчества. Начало в №5-14*

## Раздел XII. Выбрал, раздел и ушёл.

Арт. 171. В Республике Белобрысия не стоит плевать в колодец, пригодится наплевать на выборы.

Арт. 172. В Республике Белобрысия исполнительная власть гарантирует гражданам 60% явки на выборы, даже в случае отсутствия граждан Белобрысии на избирательных участках.

Арт. 173. В Республике Белобрысия неучастие в выборах приравнивается к уголовному преступлению и преследуется по закону до самой смерти.

Арт. 174. В Республике Белобрысия наблюдать за выборами - это особая степень риска, сопряжённая с потерей веры в человечество.

Арт. 175. В Республике Белобрысия выборы - это такая процедура, при которой граждане выдвигают из добровольно предложенной президентом группы людей представителей для того, чтобы они нарушали их права и плевали на их интересы.

Арт. 176. Президент Белобрысии не вмешивается в избирательный процесс, ибо он сам и является этим избирательным процессом.

Арт. 177. В Республике Белобрысия настоящих мерзавцев всегда оставляют на второй срок.

Арт. 178. В Республике Белобрысия подсчёт голосов определяется планом, план ратифицируется в парламенте, одобряется правительством и утверждается президентом не позже, чем за полгода до начала шоу «Выборы».

Арт. 179. В Республике Белобрысия выборы являются демократическими независимо от международного признания и даже вопреки ему.

Арт. 180. Граждане Белобрысии являются гражданами только на время выборов.

Арт. 181. В Республике Белобрысия выборы носят название «Сыграем в ящик» и являются гражданской панихидой по демократии.

Арт. 182. В Республике Белобрысия второй тур выборов всегда платный. Сначала ты оплачиваешь саму процедуру выборов, а все последующие четыре года бред тех, кого для тебя выбрали.

Арт. 183. Граждане Республики Белобрысия имеют право избирать кого надо и не могут быть избранными, если они не те, кто надо.

Арт. 184. Выборы в Республике Белобрысия- это не фарс всей страны, а фарс одного отдельного человека.

Арт. 185. В Республике Белобрысия можно проголосовать даже не голосуя.

Арт. 186. В Республике Белобрысия, если вы не имеете возможности со связанными руками, заткнутыми ушами и завязанными глазами самостоятельно заполнить бюллетень, за вас его всегда заполнят.

Арт. 187. Президент Белобрысии голосует первым и знает итог выборов задолго до их начала.

Арт. 188. В Республике Белобрысия предварительное голосование является главным демократическим достижением на пути к полной диктатуре.

Арт. 189. В Республике Белобрысия самые крупные провалы всегда объявляются самыми грандиозными победами.

Арт. 191. В Республике Белобрысия наиболее опасными являются выборы в Югославии.

Арт. 192. В Республике Белобрысия добро почему-то всегда пытаются выбрать из двух зол.

Арт. 193. В Республике Белобрысия не стоит отвлекать правительство своими проблемами от забот о всеобщем благополучии.

Арт. 194. В Республике Белобрысия буквы закона складываются в нехорошие слова.

***Продолжение продолжения окончания не за решёткой...***

---

**Галоўны рэдактар:** Ян МЕСАГА
**Карэктар:** Зьміцер МОРАЧ
**Макет і вёрстка:** Людміла ШАЙДЗЯНКОВА

Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя.
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі

КАЛІВА
Бюлетэнь Берасцейскага абласнога Цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў «ВЕЖА»

**Адрас:** г. Берасце, вул. Савецкіх Пamежнікаў, 52
Тэл. (0162) 20-34-87 Тэл./факс (0162) 20-34-92
e-mail: vezhain@brest.unibel.by

Падпісана ў друк 11.11.2000 г. у 18.00
Наклад 299 ас.

*Звярстана на настольна-выдавецкай сістэме прадзюсерскага цэнтра «Тасіка»*

*Бюлетэнь Берасцейскага абласнога Цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў «ВЕЖА» друкуецца на правах унутранага карыстання*